ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
# КНІГА НОША
№ 19
красавік, 2013
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Зміцер ВІШНЁЎ:
# «Чытача Еўрасаюза заманьвае беларуская экзотыка»




**– Шаноўны Зміцер Юр’евіч, Вашая апошняя па часе кніга паэзіі «Шоргат жукоў» выйшла ў 2011 годзе. І з таго часу новых выданняў не было. Якой будзе Вашая новая кніга, і як хутка яе чакаць?**

– Сёлета ў чацвёртым нумары альманаха «Тэксты» друкуюцца фрагменты з майго новага рамана «Парады ад капітана Дуліна для дзяцей пасля 18 гадоў». Праца над творам была распачатая яшчэ летась у Латвіі. На жаль, выдавецкая дзейнасць не спрыяе ўласнай творчасці – часу катастрафічна не стае на літаратурныя практыкаванні. Тым не менш, я імкнуся сістэматычна запісваць прыгоды легендарнага капітана – менавіта яны і складуць асноўны змест маёй новай кнігі.

**– Нядаўна ў Вашым выдавецтве «Галіяфы» выйшла кніга Сяргея Гваздзёва «Крэскі да партрэтаў мастакоў з Заходняй Беларусі», якая распачала новую серыю – Бібліятэчка «Новага часу». Распавядзіце пра новыя кніжныя серыі.**

– Бібліятэчка «Новага часу» – сумесны праект нашага выдавецтва і газеты «Новы час». Я спадзяюся, што і надалей мы будзем супрацоўнічаць. Зразумела, што тут плануецца друкаваць творы пастаянных аўтараў газеты.

Летась у нас была распачатая серыя «Час Воблы». У яе трапляюць не толькі сябры літаратурнага аб’яднання «Вобла», што існуе пры выдавецтве «Галіяфы», – перадусім, гэтая серыя скіраваная на падтрымку новай актуальнай літаратуры, на творчасць тых, хто дэбютуе. Ужо выйшлі кнігі Кацярыны Макарэвіч «Соль і неспакой» і Змітра Баяровіча «Шалі», цяпер рыхтуецца да друку раман Змітра Гуда «Поўдзень – 3».

Акрамя таго, намаганнямі Алеся Аркуша летась у выдавецтве «Галіяфы» была створаная серыя «Бібліятэка Таварыства Вольных Літаратараў». У найбліжэйшых планах выдаць у ёй кнігу Юрыя Гумянюка «Краіна нядзейсненых мараў».

Па-ранейшаму працягваюцца выпускі серыяў «Другі фронт мастацтваў», «Калекцыя беларускай фантастыкі», «Адсутнае беларускае мастацтва».

**– Вашае выдавецтва – адно з тых, якія шмат увагі надаюць распаўсюду кніг, Вы маеце нават сваю кнігарню ў «Падземцы»,**

*(Працяг на стар. 4)*

### Даведка «Кнiганошы»:

**Зміцер Вішнёў – паэт, літаратурны крытык, мастак, выдавец. Адзін з заснавальнікаў выдавецтва «Галіяфы». Аўтар кніг паэзіі і прозы «Штабкавы тамтам» (1998), «Тамбурны маскіт» (2001), «Трап для сусліка, альбо Некрафілічнае даследаванне аднаго віду грызуноў» (2002), «Верыфікацыя нараджэння» (2005), «Ich sitze im Koffer» (па-нямецку, Берлін, 2006), «Фараон у заапарку» (2007), «Замак, пабудаваны з крапівы» (2010), «Шоргат жукоў» (2011). Удзельнік шматлікіх міжнародных паэтычных фестываляў і кангрэсаў. Творы перакладзеныя больш чым на дваццаць моваў. Нарадзіўся ў 1973 г. у Дзебрацэне (Венгрыя). Жыве ў Мінску.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Раманава Святлана. Смарагдавы рай: паэзія. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 96 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 36).**

Эвалюцыя духоўнай прасторы, пастаяннае самаўдасканаленне, спасціжэнне свету і сябе ў ім, імкненне да ідэалу – асноўны лейтматыў кнігі.

Паэзія Святланы Раманавай – гэта кроўная сувязь з жыццём, гісторыяй, прыродай, сучаснасцю, будучыняй Радзімы, увасобленая ў знітаваннях словаў і колераў.




**Філатаў Аляксей. Жывому – жыць (Споведзь качагара). – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 204 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 38).**

Гэта ўжо адзінаццатая кніга Аляксея Філатава, які пачаў друкавацца з 1958 года. Галоўная ідэя ўсёй творчасці празаіка – пошук чысціні і дабра ў чалавеку, у людстве, у грамадстве. Новая кніга – працяг папярэдніх. Яна пра Радзіму, маці, мову, каханую, пра складаны асабісты лёс і лёс пабрацімцаў-творцаў, пра веру ў жыццё. Аўтар вырашыў зрабіць яе, як ён пашуткаваў, «скачагарыць», да свайго 75-гадовага юбілею.

Назва яе запазычана з верша шчырага сябра Аляксея Філатава – пранікнёнага палескага паэта Міхася Рудкоўскага. Можа заінтрыгаваць чытача і падзагаловак кніжкі «Споведзь качагара».




**Хадановіч Андрэй. Разам з пылам: калекцыя перакладаў. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 200 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 40).**

У зборнік увайшлі творы 41 аўтара ў перакладзе з лацінскай, французскай, англійскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай моваў, зробленыя цягам пятнаццаці гадоў. У сферу зацікаўлення перакладчыка ўвайшлі прадстаўнікі розных эпох – ад старажытнасці (Катул, Гарацый) да сучаснасці (Юрый Андруховіч, Сяргій Жадан). Можна азнаёміцца з перастварэннямі на беларускую мову твораў Нобелеўскіх лаўрэатаў Чэслава Мілаша, Іосіфа Бродскага.




**Арабей Лідзія. Пошукі ісціны: абразкі. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 100 с.**

Новая кніга вядомай беларускай пісьменніцы Лідзіі Арабей складаецца з абразкоў. Як піша аўтар у прадмове да кнігі: «…пісьменніку не хочацца траціць сувязі з чытачом, хочацца расказаць яму пра свае думкі, назіранні. І вось – такі жанр. Можна назваць абразкамі, можна назваць навеламі-карацелькамі, а можа, хто прыдумае лепшае азначэнне.

Гэту кнігу можна адгарнуць на любой старонцы, прачытаць некалькі абразкоў, а калі спадабаюцца, то і ўсю кнігу. Тут разважанні аўтара, назіранні. Можа, пазнаеце тут сябе альбо сваіх знаёмых».




**Татарка Дамінік. Культура як зносіны: выбранае з разваг. Пер. са славацкай Марыны Кажарновіч. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 352 с.**

Кніга «Культура як зносіны» – гэта цэлы шэраг арыгінальных разваг славацкага пісьменніка Дамініка Татаркі пра мастацтва, культуру, палітыку, жыццё. Творчасць пісьменніка доўгі час была пад забаронай, да сёння яго імя згадваецца ў кантэксце барацьбы супрацьстаяння гвалту, няпраўдзе і несвабодзе. Дамінік Татарка сфармуляваў канцэпцыю нацыянальнай культуры, заснаванай на архаічных міфах. Культура – гэта зносіны, гэта прастора паразумення, у якой жыве любоў, творчасць і свабода. Гэта месца яднання цела і духа, гэта размова чалавека з самім сабой, з іншым чалавекам, з народам і светам.




**Герус Барыс. Уязная віза: раман. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 106 с.**

Раман «Уязная віза» дазваляе чытачу наноў пабачыць і асэнсаваць нядаўнюю гісторыю Усходняй Еўропы. Перадусім твор можна ахарактарызаваць як сагу пра Адэсу. Аўтар прапаноўвае літаратурны кактэйль з грымучай сумесі, куды ўваходзяць і любоў, і нянавісць, і настальгія, і прыкрасць… Напой аздабляюць фарбы мора і шпілі партовага горада.




**Квяткоўскі Севярын. Падарунак для Адэлі: проза. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 96 с.**

«Падарунак для Адэлі» – суплёт містычных, часам іранічных, крыху жудасных, але часцей забаўных гісторый з жыцця людзей, якія атачалі аўтара ці мроіліся яму на мяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў. Большасць апавяданняў друкавалася ў газеце «Наша Ніва», частка – на розных пляцоўках інтэрнэту ў 1996–2006 гг.




**Календа Сяргей. Кантынентальны сняданак: проза. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 112 с.**

Кніга змяшчае гісторыі з жыцця міфічнага гатэлю ў Мінску. Свет пакаёвак і парцье, масажыстаў і цырульнікаў, менеджараў і маркетолагаў схаваны за ветлівымі ўсмешкамі і безаблічнасцю ўніформы – той, які не бачаць пастаяльцы.




**Мара Алесь. Калодзеж у жыце: вершы. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 248 с.**

Мастак Алесь Мара (Аляксей Марачкін) прэзентуе кнігу паэзіі «Калодзеж у жыце». Увазе чытачоў прапануюцца вершы і паэмы розных гадоў, сярод твораў лірычна-пранікнёных, глыбока асабістых па настроі значнае месца займаюць вершы і паэмы сацыяльна-грамадзянскага гучання.




**Балахонаў Сяргей. Зямля пад крыламі Фенікса: нарысы з паралельнай гісторыі Беларусі. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 248 с. – (Серыя «Галерэя «Б»).**

Думаеш, ты добра ведаеш беларускую гісторыю? Скажы тады, у якіх стагоддзях птушка фенікс і аднарогі насялялі наш край? Што маляваў Францішак Скарына ў сваім дэмбельскім альбоме? Як адзначалі літвіны-беларусы сваё вяртанне з Месяца? Каля якога беларускага горада адбыліся падзеі, што сталі асновай для сюжэта відэагульні пра Супер- Марыё? Калі не маеш што адказаць на ўсе гэтыя пытанні, дык найлепшым дарадцам для цябе будзе гэтая кніга. Мноства неверагодных фактаў, сенсацыйных адкрыццяў і парадаксальных высноваў знойдзеш на старонках гэтае кнігі. Чытай! Здзіўляйся! Спрачайся!




**Някляеў Уладзімір. Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без: раман. – Мінск: А. А. Калоша, 2012. – 312 с: іл.**

«Аўтамат з газіроўкаю стаяў на Пляцы Волі, на спуску да Нямігі, куды перанеслі яго з праспекта Леніна ад крамы пад гадзіннікам, шостай прадуктовай, у якой і пачалі прадаваць мінчукам пеністую ваду з сіропам і без. Чаму перанеслі, ніхто не ведаў. Але ўсе здагадваліся: каб ятку знесці, у якой раней мяса прадавалі. Мяса на ўсіх не хапала, і каб яго стала болей, увесь Савецкі Саюз засеялі кукурузай, пасля чаго мяса зусім прапала. Ятка стаяла пустой – і ў ёй сталі прадаваць газіроўку. Мінчукі падыходзілі, выпівалі і пыталіся: «А закусіць?» Калі ж ятку знеслі і аўтамат замест яе паставілі, дык у каго пра што пытацца? У аўтамата?..»




**Бічэль Данута. Іду сцяжынаю да Бога: вершы. – Мінск: Про Хрысто, 2012. – 172 с.**

У зборнік, выдадзены да юбілею вядомай беларускай паэткі і перакладчыцы, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, увайшлі творы, напісаныя ў апошнія гады. Гэта вершы-малітвы, як іх акрэслівае сама паэтка, прасякнутыя шчырасцю, любоўю да роднага Краю і надзеяй на яго духоўнае адраджэнне. Кніга адрасаваная ўсім аматарам беларускай паэзіі.




**Сергіеня Яўген. Час малітвы: вершы. – Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2012. – 92 с.**

Новы зборнік прасякнуты вераю ў духоўнае прызначэнне чалавека, у яго памкненне быць добрым, шчырым, спагадлівым, рашуча пераадольваць хвіліны слабасці і спакусы. Арыенцірам для гэтага з'яўляюцца вечныя і непарушныя хрысціянскія маральныя каштоўнасці, народная мудрасць.

Кніжка складаецца з трох раздзелаў: у першым – развагі пра зямное людское існаванне, узаемадачыненне асобы і грамадства; у аснове другога – асэнсаванне біблейскіх сюжэтаў і матываў; трэці раздзел – гэта згадкі пра кут маленства, маці і сяброў, лірыка прыроды і кахання.




**Макаревич Пётр. Птица свободы: антология одного стихотворения. – Минск: Кнігазбор, 2012. – 120 с.**

У анталогію ўключана па адным вершы ста беларускіх паэтаў XX – пачатку XXI стагоддзя ў перакладзе на рускую мову Пятра Макарэвіча. У слове ад перакладчыка аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць паэту Міхасю Скоблу, які натхніў яго на стварэнне гэтай кнігі.




**Ружэвіч Тадэвуш. Без: выбраныя вершы; пер. з польскай мовы Марыны Казлоўскай. – Мінск: Зміцер Колас, 2012. – 272 с.**

Выданне ўяўляе сабой збор выбранных твораў вядомага сучаснага польскага паэта і драматурга Тадэвуша Ружэвіча, якія даюць магчымасць пазнаёміцца з вершамі розных перыядаў творчасці аўтара.




**Львович Майя. Балагола: Вірші, переклади. Передм. О. Ковальової. – Х.: Майдан, 2012. – 192 с.**

У кнізе рэпрэзентаваная творчасць паэткі Маі Львовіч габрэйскай тэматыкі: арыгінальныя творы і пераклады з ідыш на ўкраінскую і беларускую мовы.




**Сказки народов мира. Сост. Р. И. Шастак; худож. Е. А. Карпович. Минск: ИП Владимир Сивчиков, 2013. – 272 с.: ил. – (Серия «Сказки и былины»).**

У кнізе сабраныя найлепшыя казкі народаў свету, а таксама творы знакамітых пісьменнікаў. Адрасуецца школьнікам і навучэнцам педагагічных каледжаў. Рэкамендуецца настаўнікам і выхавацелькам, а таксама бацькам, дзядулям і бабулям.

# Лаўрэаты прэміі «Дэбют»



Юлія ШАРОВА.

21 сакавіка, у Сусветны дзень паэзіі, у мінскай галерэі «Ў» адбылося ўручэнне літаратурнай прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча. Прэмія праводзіцца ўжо трэці год запар традыцыйна ў трох намінацыях: паэзія, проза, мастацкі пераклад. Арганізатарамі прэміі выступілі Беларускі ПЭН-Цэнтр і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Вядучы вечарыны, паэт, перакладчык, старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра Андрэй Хадановіч паведаміў, што сёлета ў межах прэміі ёсць спецыяльныя адзнакі – будуць уручаныя дзесяць узнагародаў і адзін медаль.

Пісьменнік, сябар журы Уладзімір Арлоў у сваім выступе заўважыў, што бурлівыя публічныя абмеркаванні прэмій – нядаўна ўручанай імя Гедройца і цяпер імя Багдановіча – абвастраюць падзеі літаратурнага працэсу.



Ганна ЯНКУТА.

Спадар Уладзімір запрасіў на сцэну заснавальніка прэміі «Дэбют» Паўла Бераговіча, які быў ўганараваны медалём з партрэтам Максіма Багдановіча як фундатар прэміі.

Андрэй Хадановіч у алфавітным парадку прадставіў шорт-лістэраў у намінацыі «Мастацкі пераклад». Святлана Богуш распавяла пра перакладзеную ёй са славацкай мовы кнігу Рудольфа Слобады «Розум» і агучыла фрагмент з кнігі. Павел Рааго расказаў пра сваю працу над перакладам Жо Лангерава «Калісьці ў Браціславе. Маё жыццё з Оскарам Л».

Пісьменнік, першы намеснік старшыні ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Алесь Пашкевіч, а таксама выдавец Зміцер Колас, дзякуючы якому пабачылі свет кнігі ўсіх намінантаў у галіне перакладу, абвесцілі пераможцу. Лаўрэатам прэміі «Дэбют» стала Ганна Янкута за электронную кнігу перакладаў «Калядны харал» Чарльза Дыкенса.

Нагадаем, што ў шорт-лісце намінацыі «Проза» аказаліся: Андрэй Пакроўскі з кнігай «Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза» (кніжная серыя «Пункт адліку»), Юлія Шарова з электронным выданнем «Don Giovanni, або Памілаваны сваявольнік», а таксама Ксенія Шталянкова з раманам «Адваротны бок люстра».

Абвяшчаючы лаўрэата-празаіка, Лявон Баршчэўскі адзначыў, што ўсцешаны з'яўленнем маладога пакалення, сапраўды беларускіх аўтараў новай фармацыі, якія не баяцца эстэтычных эксперыментаў і працуюць у самых розных формах і жанрах. Прэмію «Дэбют» у намінацыі «Проза» атрымала Юлія Шарова.

Спецпрэміяй «Крэатыўны праект. Нечаканка года» быў ўганараваны Глеб Лабадзенка за кнігу «Дзіцячая заМова».

Сярод намінантаў у паэзіі былі Андрэй Адамовіч з кнігай «Дзень паэзіі смерці дзень», Кацярына Макарэвіч са зборнікам «Соль і неспакой» і Наста Манцэвіч з выданнем «Птушкі» (вершы і проза, серыя «Пункт адліку»).

Усе намінанты прысутнічалі, за выняткам Кацярыны Макарэвіч, якая знаходзілася за межамі Беларусі. Яе творчасць прадставіла яе сяброўка Ірына.

Філосаф, літаратар, сябар журы Валянцін Акудовіч абвесціў лаўрэата прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча ў паэзіі – ім стаў Андрэй Адамовіч.

Музычную частку вечарыны забяспечылі Андрусь Такінданг і гурт «Рэха».

**Прэсавая служба СБП**
**Фота АУ**

# «Чытача Еўрасаюза заманьвае беларуская экзотыка»

(Пачатак на стар. 1)

**ладзіце шмат прэзентацыяў новых кніг. Наколькі важная гэтая праца для выдавецтва?**

– Важна кнігу не толькі выдаць, але і распаўсюдзіць. Таму, цалкам натуральна, калі выдавецтва займаецца сваім прадуктам. Дарэчы, супрацоўніцтва выдавецтва «Галіяфы» і «Падземкі» прыпыненае. Грашовы фактар, як кажуць, перамог, і цяпер замест кніжак бізнесоўцы з «Падземкі» расклалі больш хадавы тавар – разнастайныя гульні. Выдавецтва ў актыўным пошуку памяшкання пад уласную кнігарню, таму мы будзем радыя розным прапановам на гэты конт.

**– Вы часта бываеце за мяжой, удзельнічалі ў шматлікіх міжнародных паэтычных фестывалях, міжнародных кніжных выставах, кірмашах. Правакацыйнае пытанне: сучасная беларуская літаратура сапраўды цікавіць еўрапейцаў?**

– У найлепшым выпадку гэтую цікаўнасць можна параўнаць з цікаўнасцю да танца папуаса. Беларусь – таксама еўрапейская краіна, але яна нагадвае выспу на ўскрайку Еўропы. Не здзіўлюся, калі ў найбліжэйшы час у нас пачнуць расці пальмы і поўзаць кракадзілы. Шараговага жыхара Еўрасаюза заманьвае менавіта беларуская экзотыка. На жаль, у кантэксце Еўропы мы глухая правінцыя, і толькі людажэрскія паводзіны чыноўнікаў, танцы каля вогнішча, крамбамбуля, хакейная клюшка і могуць прывабіць чытача з Еўрасаюза да нашых твораў. Я не веру ў моцны прарыў на еўрапейскі літаратурны арт-рынак беларускіх аўтараў. Для буйных заходнееўрапейскіх выдавецтваў дастаткова некалькі аўтараў з Беларусі – маўляў, цяпер мы ведаем беларускую літаратуру. У Еўрасаюзе існуе моцная творчая машына са сваімі традыцыямі і патрабаваннямі, і варта быць вельмі наіўнымі, каб думаць і верыць у тое, што кагосьці цікавяць нашыя дробныя ўнутраныя праблемы.




**Чыгрын Сяргей. Слонімскі буквар: даведнік па горадзе Слоніме і раёне. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 64 с.**

У выданні ў алфавітным парадку размешчаны артыкулы пра гісторыю слонімскай зямлі, пра яе людзей, пра помнікі і тыя падзеі, што на працягу некалькіх стагоддзяў адбываліся на Слонімшчыне. Кожны артыкул ілюстраваны старымі і сучаснымі здымкамі, а ў канцы кнігі змешчаны спіс літаратуры пра Слонімшчыну.

Кніга будзе цікавай усім тым, хто захапляецца гісторыяй і краязнаўствам сваёй Бацькаўшчыны, але найперш школьнікам і іх бацькам, настаўнікам і турыстам.




**Гваздзёў Сяргей. Крэскі да партрэтаў мастакоў з Заходняй Беларусі. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 338 с.: іл. – (Бібліятэчка «Новага часу»).**

Мастацтвазнаўчыя замалёўкі прысвечаныя як вядомым жывапісцам Заходняй Беларусі (Рушчыц, Сергіевіч), так і тым, чые імёны ў наш час аказаліся напаўзабытымі ці зусім невядомымі, што належалі да розных школ, нацыянальнасцяў, светапоглядаў, светаадчуванняў.

Гэта, бадай што, адна з першых спробаў вярнуць у сённяшні дзень цікавыя постаці, якія істотна дапаўняюць (а ў нечым і змяняюць) нашае ўяўленне пра выяўленчае мастацтва беларускага краю XX ст.




**Зоська Верас. Я помню ўсё: Успаміны, лісты; уклад. М. Скобла. – Гародня: «Гарадзенская Бібліятэка», 2013. – 476 с.**

Выданне прымеркаванае да 120-х угодкаў Зоські Верас (Людвікі Сівіцкай; 1892–1991) – пісьменніцы, мемуарысткі, публіцысткі, лексікографа, перакладчыцы, асветніцы, грамадскай дзяячкі. У аднатомніку без купюраў друкуюцца яе ўспаміны і 386 лістоў, адрасаваных яе гарадзенскім карэспандэнтам. Гэта 21-ая кніга кніжнай серыі «Гарадзенская Бібліятэка».




**Краўцэвіч Алесь. «Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага (1248–1341)». – Гародня–Уроцлаў: «Гарадзенская Бібліятэка», 2013. – 186 с.**

Першыя этапы гісторыі Вялікага Княства Літоўскага (1248–1341 гг. – стварэнне дзяржавы, змаганне за выжыванне, пачатак тэрытарыяльнага росту) прадстаўленыя ў еўрапейскім і беларускім гістарычным кантэксце. Тэкст навуковы, дапоўнены даведкавым апаратам, разлічаны на гісторыкаў, настаўнікаў, студэнтаў і ўсіх зацікаўленых гісторыяй. Гэта 22-ая кніга кніжнай серыі «Гарадзенская Бібліятэка».




**Супольнасць традыцыі – садружнасць у будучыні: беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: зборнік навуковых артыкулаў; прадм. І. Э. Багдановіч; пад рэд. І. Э. Багдановіч, С. М. Запрудскага. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 400 с. – (Беларусіка = Albaruthenica; Кн.34).**

Зборнік навуковых артыкулаў «Супольнасць традыцыі – садружнасць у будучыні» вызначаецца актуальнасцю тэматыкі і прысвечаны шырокаму колу праблемаў беларуска-польскіх моўных, літаратурных, гістарычных і культурных сувязей.

Зборнік разлічаны на беларускіх і польскіх даследчыкаў – спецыялістаў у галіне філалогіі, гісторыі і культуралогіі, а таксама на навукоўцаў іншых замежных краінаў, выкладчыкаў, настаўнікаў, студэнтаў, усіх зацікаўленых беларуска-польскімі ўзаемадачыненнямі на розных этапах гістарычнага існавання нашых народаў і краінаў.




**Пресняков А.Е. Литовско-Русское государство в XIII–XVI вв. – Минск: Харвест, 2012. – 296 с.: илл. – (Неизвестная история).**

Прапануемая праца – частка першага тома «Лекцыяў па рускай гісторыі», прачытаных аўтарам у 1904–1907 гг. Пры перадрукоўцы выдавец апусціў раздзелы 1–4, прысвечаныя лёсу Вялікага княства Кіеўскага і Вялікага княства Галіцкага (у выніку пяты раздзел кнігі Прэснякова ў дадзеным выданні стаў першым). Выдавец таксама паставіў больш за 100 ілюстрацыяў, якіх у аўтара ўвогуле не было. Гісторыю Вялікага Княства Літоўскага прафесар Прэснякоў разглядаў з пазіцыяў заходнерусізму. Нягледзячы на гэта, яго кніга захоўвае карыснасць за кошт дэталёвага разгляду сацыяльна-прававой будовы ВКЛ і праблемаў, звязаных з заключэннем Крэўскай (1386), Гарадзельскай (1413) і Люблінскай (1569) уніяў паміж ВКЛ і Польскім каралеўствам.




**Ситько Здислав. По следам Литвы. – Минск: Харвест, 2012. – 224 с.: илл. – (Неизвестная история).**

Аўтар прыводзіць у сваёй кнізе шэраг ідэяў, што ідуць уразрэз з агульнапрынятымі канцэпцыямі. Паводле яго думкі, тэрмін «Літва» першапачаткова абазначаў не этнічную таварыскасць (племя), а сацыяльную (дружыну прафесійных воінаў). Такія дружыны прыйшлі ў наш край у сярэднія вякі з земляў заходных славянаў, у асноўным з Палаб'я і Памор'я. А першы вялікі князь Літвы Міндаўг (Мендог) належаў да дынастыі полацкіх князёў. У пошуку пацверджанняў аўтар аналізуе змест летапісаў і іншых першакрыніцаў, матэрыялы археолагаў, лінгвістаў, краязнаўцаў. Пры гэтым ён заяўляе, што тэксты шэрагу летапісаў былі наўмысна скажоныя ў больш позні час.




**Трафімчык Анатоль. Якуб Колас – вядомы і невядомы. – Мінск: Ковчег, 2012. – 140 с.**

Аўтар сабраў пад адной вокладкай свае даследаванні творчасці і жыцця народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Як вынікае з назвы, чытач не толькі абновіць некаторыя свае веды, але і адкрые для сябе дагэтуль незнаёмыя бакі класіка як мастака слова. Даследуюцца таксама некаторыя біяграфічныя старонкі пісьменніка. Разглядаюцца асобныя моманты захавання памяці пра Песняра.

Аўтар не імкнуўся да сенсацыяў. Аднак месцамі Якуб Колас прадстаўлены як мінімум нечакана, што выклікае цікавасць да кнігі самага шырокага кола чытачоў.




**Трафімчык Анатоль. Беларуская дзіцячая драматургія. – Мінск: Ковчег, 2012. – 128 с.**

У манаграфіі ўпершыню прааналізавана і ахарактарызавана на шырокай сістэматызаванай аснове развіццё беларускай дзіцячай драматургіі, раскрываюцца агульныя тэндэнцыі развіцця драматургіі для дзяцей на кожным з этапаў, выяўляюцца змены і асаблівасці характараў у беларускай п'есе для дзяцей. Вартасць атрыманых вынікаў заключаецца ў стварэнні цэласнай працы па праблеме характару ў беларускай дзіцячай драматургіі на працягу стогадовай гісторыі яе існавання, а таксама ў крытычнай рэвізіі многіх ранейшых палажэнняў літаратуразнаўства і крытыкі.

Кніга разлічана перадусім на філолагаў, а таксама тэатральных дзеячаў – як прафесіяналаў, так і аматараў.







**Пшацлаўскі Восіп. Калейдаскоп успамінаў: У 2 т.; уклад., прадм., камент. і імен. паказ. Аляксандр Фядута; навук. рэд. камент. Абрам Рэйтблат. – Мінск: Лімарыус, 2012. – 376, 368 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

На старонках успамінаў паўстаюць многія дзеячы, што па-за ўвагаю іншых мемуарыстаў. Сярод іх мітрапаліт каталіцкай царквы Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, былы міністр фінансаў Каралеўства Польскага і член Дзяржаўнага савета Расійскай імперыі князь Францішак Друцкі-Любецкі, душыцель студэнцкіх таемных таварыстваў у Віленскай вучэбнай акрузе Мікалай Навасільцаў і інш. У нарысе «1811 і 1812 гады» аўтар апісаў жыццё беларуска-літоўскай шляхты падчас вайны з Напалеонам. Цікавыя сваёй дакладнасцю і смеласцю ацэнак партрэт Адама Міцкевіча і мемуарна-палемічны нарыс, прысвечаны Язафату Агрызку і ягонай польскай газеце «Слова».




**Бандажэўскі Юры. Турма і здароўе. Парады прафэсара мэдыцыны. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. – 250 с.: іл.**

Як зняволенаму выстаяць у экстрэмальных умовах беларускай турмы? Былы вязень сумлення, доктар медыцыны Юры Бандажэўскі на падставе ўласнага досведу напісаў за кратамі дапаможнік, адрасаваны вязням, якія не збіраюцца здавацца ва ўмовах няволі.

Прафесар Бандажэўскі расказвае, як сам змагаўся з набытымі ў няволі хваробамі, пра найбольш распаўсюджаныя захворванні вязняў і пра самалячэнне, пра народную турэмную медыцыну і фізічную загартоўку за кратамі, пра ролю, якую ў падтрымцы энергетычнага метабалізму адыгрывае прыход да веры, штодзённая актыўная разумовая дзейнасць і маральная дапамога вязню звонку. Як навуковец-радыёлаг аўтар спыняецца на ўплыве чарнобыльскага фактару на здароўе зняволеных.




**Грузьдзіловіч Алег. Хто ўзарваў менскае мэтро? (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/ Радыё Свабода, 2012. 354 с.: іл.**

«Хто ўзарваў мінскае метро?» – аналіз судовага працэсу над абвінавачанымі ў тэракце ў мінскім метро, дзе 11 красавіка 2011 года загінулі 15 чалавек. Рэпартаж з судовай залы ўключае галасы падсудных і пацярпелых, аргументы абвінавачання і абароны, высновы экспертаў, рэакцыю грамадства. Аўтар таксама дае асабістую ацэнку пабачанаму і пачутаму.

У кнізе выкарыстаныя матэрыялы агенцтваў БелаПАН, БелТА, «Інтэрфакс-Захад», тэлеканала «БелСАТ», праваабарончага цэнтру «Вясна», газетаў «Наша ніва» і «Московский комсомолец», інтэрнэт-выданняў «Салідарнасць» і «Ежедневник», сайтаў Руху «За свабоду» і «Еўрарадыё».




**Польска-беларускі тэматычны слоўнік для школьнікаў і студэнтаў = Polsko-Białoruski słownik tematyczny dla uczniów i studentów: больш за 17,5 тысячаў слоўнікавых артыкулаў. Укладанне Лявон Баршчэўскі. – Мінск: Зміцер Колас, 2013. – 274 с.**

Прапанаваны польска-беларускі тэматычны слоўнік знаёміць з найбольш ужыванай у школах і ВНУ агульнай і агульнадыдактычнай лексікай, а таксама тэрміналогіяй з такіх дысцыплінаў, як літаратура, мова, мастацтва (культуралогія), гісторыя, грамадазнаўства (паліталогія, правазнаўства, сацыялогія, філасофія), геаграфія, біялогія, хімія, фізіка, астраномія, матэматыка і інфарматыка.

Адрасуецца навучэнцам і настаўнікам СШ і ВНУ з польскай і беларускай мовай навучання, а таксама ўсім, хто цікавіцца польскай і беларускай тэрміналогіяй.

# Кніга цёплых успамінаў




**Каржанеўская Галіна. «Што варта радасці і слёз...»: біяграфія ў вершах і нарысах. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 34).**

Калі пры ўзгадцы слова «аўтабіяграфія» вы ўяўляеце сабе сухі і строгі пералік датаў і падзей, то вашыя папярэднія ўяўленні даволі істотна пацерпяць, як толькі вы возьмеце ў рукі кнігу Галіны Каржанеўскай «Што варта радасці і слёз».

Кніга спадарыні Каржанеўскай сталася не проста фіксацыяй рэальных падзеяў з асабістага жыцця і лёсу сямейнікаў ды землякоў, але і іх праекцыяй ва ўнутраным свеце чалавека і творцы.

Асаблівасцю кнігі з’яўляецца выкарыстанне розных літаратурных родаў – паэзіі і прозы, якія дапаўняюць адзін аднога і надаюць тэксту адпаведныя аўтарскай задуме адценні ды лірычную ці, наадварот, рэалістычна-гістарычную афарбоўку.

Па задуме аўтара ў кнізе структурна выдзеленыя дзве часткі. Асобна адлюстраваныя два перыяды жыцця – ранні, звязаны са Случчынай, і пазнейшы – злучаны з Лагойшчынай, дзе спадарыня Каржанеўская жыла ў весцы Янушкавічы і настаўнічала ў мястэчку Плешчаніцы.

Першая частка праводзіць чытача сцежкамі дзяцінства Галіны Каржанеўскай, што праляглі па слуцкіх маляўнічых палетках і, здаецца, дагэтуль памятаюць дотыкі босых ног і гукі дзіцячага смеху малечы. Менавіта роднай старонцы прысвечаныя шчырыя і цёплыя радкі першага верша з назваю «Вянок удзячнасці»:

Я пачуцці хаваць не прывучана.
Ты любоў мая, Случчына!

Перад намі паўстаюць карціны з мінулага родных мясцінаў паэткі – пачатак стагоддзя, гады рэвалюцыі, міжваенны час – карціны, у якіх вялікія падзеі знітаваныя непарыўнай сувяззю з лёсамі простых беларускіх сялянаў. З пяшчотаю і цеплынёй узгадваюцца тут блізкія і бацькі:

Колькі радасці той на вяку!
І хоць добра знаёмы са стратамі,
Ад касмічнага скразняку
Засланяюць нас
мамы з татамі.

У другой частцы кнігі спадарыня Каржанеўская вядзе расповед пра той этап свайго жыцця, які звязаны з яшчэ адным куткам Міншчыны – з Лагойшчынай, куды пераехала сям’я паэткі і дзе пані Галіна зрабіла першыя самастойныя крокі ў жыцці – скончыла школу, пачала настаўнічаць, пабралася шлюбам, нарадзіла дзіця і выдала сваю першую кнігу. І нягледзячы на тое, што далейшы лёс аўтаркі быў звязаны з Мінскам, па яе ўласных словах, «Плешчаніцы на дзясяткі гадоў сталі месцам прыцягнення для нашай сям’і». Вершаваную частку другога раздзела распачынае «Вянок сталення», радкі якога ёсць і квінтэсенцыяй роздумаў паэткі і назваю кнігі:

Што перадумана і сцверджана,
Што варта радасці і слёз,
Што ў марах выпешчана – тое,
Заўжды жывое і святое.

Кніга цёплых успамінаў Галіны Каржанеўскай сталася не толькі данінай павагі ўласнаму роду, але і ўсім землякам ды знаёмцам, з якімі лёс звёў паэтку.

**Усевалад Сцебурака**

# «Краіна Беларусь» выйшла ў перакладзе на англійскую мову

***У славацкім выдавецтве «Kalligram» (Браціслава) выйшаў у свет англійскі пераклад папулярнай кнігі Уладзіміра Арлова і Змітра Герасімовіча «Краіна Беларусь». Аўтар перакладу і ўступнага слова да англамоўных чытачоў – знакаміты брытанскі беларусіст прафесар Джым Дынглі.***




Ідэя выдання з’явілася даўно, але набыла рэальныя абрысы, калі ёю натхнілася вядомая грамадская дзеячка Вольга Стужынская.

Кніга ўводзіць у свет нашай мінуўшчыны ад старажытных часоў да пачатку ХХ стагоддзя. Гісторыя Беларусі разглядаецца як частка агульнаеўрапейскага развіцця цывілізацыі. Тэкст суправаджаюць каля дзвюх тысячаў ілюстрацыяў, у тым ліку ўнікальныя летапісныя мініяцюры, сярэднявечныя гравюры, рэдкія фотаздымкі. Кніга пераканаўча сцвярджае, што беларусы гістарычна, культурна і ментальна належаць да Еўропы.

Гэта – першае англамоўнае выданне такога кшталту, прысвечанае гісторыі Беларусі і створанае беларускімі аўтарамі.

Адначасова тое ж славацкае выдавецтва выпусціла рускамоўны пераклад «Краіны Беларусі». Абодва выданні паступілі ў «Акадэмкнігу» ды іншыя кнігарні.

Выдаўцы і аўтары мяркуюць, што пераклады кнігі «Краіна Беларусь» не толькі зацікавяць замежных вучоных і дыпламатаў, прадпрымальнікаў і турыстаў, але і значна павялічаць колькасць сяброў нашай краіны.

**Прэсавая служба СБП**

## «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Аляксандар Л. Зкімбы-зымбы. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 270 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 14).**

Кніга Аляксандра Л. (ён жа – дырэктар беларускай службы «Радыё Свабода» А. Лукашук) уяўляе з сябе суплёт рознажанравых эсэ: тут і аповеды пра сям'ю, і разгляданне каранёў радаводнага дрэва, і згадкі пра ранняе дзяцінства (першы раздзел), і гісторыі са станаўлення прафесійнай дзейнасці. Знакамітыя асобы, з якімі цягам жыцця сустракаўся і працаваў аўтар, прадстаўленыя ў адмысловых дэкарацыях – не можа быць тэатра больш праўдзівага за жыццё – у святле ўспамінаў, у розных месцах, часах, краінах і гарадах. Мастакі, фатографы, рэжысёры, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, якія яшчэ жывуць і ствараюць або ўжо адышлі – кожнаму з іх, сяброў і калегаў, у кнізе ўдзеленая ўвага. Найноўшасць незаўважна пераплятаецца з успамінамі шматгадовай даўніны.




**Максім Жбанкоў. No style. Белкульт между Вудстоком и «Дажынкамі». – Вильнюс: ЕГУ, 2013. – 268 с.**

Кніга выбраных эсэ культуролага і журналіста Максіма Жбанкова ўтрымлівае аўтарскі погляд на тэндэнцыі развіцця беларускай культуры апошняга дзесяцігоддзя. Аўтар выступае не толькі як назіральнік, але і ўдзельнік культурнага працэсу – упершыню ў айчыннай аналітыцы прапануе сістэмны аналіз рознапланавых з'яваў і тэкстаў (ад спробаў «думаць Беларусь» да маргінальных поп-трэшпраектаў). Сп. Жбанкоў прапануе сваю канцэпцыю No style, якая закліканая дапамагчы больш глыбокаму разуменню парадаксальнае прасторы беларускае культуры часоў «моцнай прэзідэнцкай улады». У вольнай неакадэмічнай манеры разглядаюцца знакавыя з'явы і культавыя артэфакты айчыннай і замежнай поп-культураў, што дазваляе арганічна ўпісаць беларускія рэаліі ў глабальны кантэкст.




**Леанід Дранько-Майсюк. Кніга для спадарыні Эл. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 200 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 27).**

Хто такая загадкавая спадарыня Эл, якой прысвечана кніга, званая антыгламурным раманам? На гэтае пытанне сам аўтар адказвае так: «Спадарыню Эл ідэальнай беларускай ніяк не назавеш. Гэты сацыяльны тып узнік на мяжы XX і XXI стагоддзяў. Такіх жанчын ужо шмат, асабліва ў Мінску, і яны даволі прыкметныя, гэтыя глянцавітыя кветкі «салодкага» гламуру».

Разам з тым «Кніга для спадарыні Эл» і трагічная, бо ў яе ўваходзіць п'еса «…і пяць з недапітых чаш» пра цкаванне Янкі Купалы органамі АДПУ і паэма «Твая Марыя» пра Юрку Лістапада, які адмовіўся супрацоўнічаць з НКУС.

## КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: logvinovpress@mail.ru,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 19
красавік, 2013
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 19, 24.04.2013.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com